

# МОЛАДЗЬ АДЗНАЧЫЛА XX ГАДАВІНУ ППР

Моладзь Беластоцкага, Бельскага і Гайнаўскага паветаў нядаўна арганізавала ўрачыстую акадэмію ў Белавежы прысвечаную XX-годдзю ППР.

Дэлегацыі моладзі злажылі вянкі і кветкі пад помнікам ахвяр фашызму.

У заключэнні акадэміі ў зале кіно «Жубр» выступіў калектыў мастацкай самадзейнасці ЛьЗС з Боцькаў. Пасля адбылася маладзёжная забава.

Тэкст і фота:
**Т. Чачкоўскі**





# НА СЦЭНЕ „СВЕРШЧА"

## МЯДЗВЕДЗЬ РЫМЦІМШ ШУКАЕ... ГРЫБОЎ

**Прыгожы лес. А ў лесе многа грыбоў і добрых і дрэнных. Але Мішка Рымцімці не адрозьнівае дрэнных ад добрых. Назбіраў кошык мухамораў і цешыцца, што гэта найлепшыя, найпраўдзівейшыя грыбы.**

Цудоўная гэтая новая казка, пастаўлена тэатрам лялек «Свершч» у Беластоку. Называецца «Тыматэуш Рымцімці». А для дзяцей сур'ёзнае перажыванне вандраваць так па лесе разам з малым Мішкам і яго цудоўным прыяцелем — сабачкам. Увогуле, гэты разумны, маленькі і клапавухі сабачка бадай найбольш дзецям падабаецца. Больш неапанаваныя з малых гледачоў ахвотна наследуюць тут жа, у зале, яго звонкі брэх.

Адмоўная персона спектакля — гэта ліса — зладзейка, якую аднак перамагае маленькі сабачка.

Цудоўная канцавая сцэна «Школа пад букам», у якой Мішка і яго сябры вучацца адрозніваць грыбы добрыя ад дрэнных.

Вельмі падабалася сцэнаграфія **Ежы Лабаноўскага.**

Рэжысіравала цэласць **Іаанна Пякарская** — рэжысёр і дырэктар тэатра лялек «Свершч». Музыка — **Станіслава Прушынскага.**

Тэатр будзе выступаць у павятовых гарадах, а таксама ў Чорнай Всі, Белавежы, Харошчы, Міхалове, Гарадку, Крынках, Бранску. Значыць, ёсць мажлівасць пабыць на выступленні.

**вл.**

## »У сяброў«

Гэта загаловак зборніка перакладаў паасобных твораў з рускай, беларускай, украінскай, літоўскай і грузінскай паэзіі, аўтарам якіх з'яўляецца Леапольд Левін. Кніга з'явілася ў выданні Літаратурнага выдавецтва ў Кракаве.

Л. Левін — вядомы ў Польшчы паэт і перакладчык неаднаразова ўжо звяртаўся да паэзіі народаў Савецкага Саюза. Яго пераклады змяшчаліся ў літаратурным друку і выходзілі ў зборніках побач з перакладамі другіх польскіх паэтаў. Зараз, маючы ў руках выключна зборнік Л. Левіна, можам пераканацца аб яго сур'ёзным набытку ў гэтай галіне літаратурнай працы, хаця тут і маем толькі частку перакладаў аўтара.

Дык нізку перакладаў вершаў беларускіх паэтаў складаюць Максім Танк, Янка Купала і Якуб Колас. М. Танк прадстаўлены вершамі «Вянок» (твор у гонар рабочых Кракава і Львова, расстраляных паліцыяй у час дэманстрацыі 1936 года), «Каб ведалі», «На Навагрудскай гары», «Рукі маці», «Клубіцца ў полі», «Сто шэсцьдзесят бардаў», «Пяе пясок балтыйскі дзюн»; Янка Купала — вершамі «А хто там ідзе?», «Памяці Мар'і Канапніцкай», «Касцам», «Беларускаму паэту»; Якуб Колас — вершамі «Кліч», «Вецер». Пераклады гэтых твораў вызначаюцца ўдумлівым падыходам Л. Левіна да арыгіналаў, па-майстэрску ўзнаўляюць іх аўтарскую задуму. Урэшце, усе пераклады Леапольда Левіна, змешчаныя ў зборніку «У сяброў», гавораць нам аб яго шырокіх паэтычных магчымасцях. Нас асабліва павінен цешыць той факт, што паэзію змешчаных тут творцаў аўтар вельмі цэніць і любіць і што сярод іх як раз апынуліся прадстаўнікі беларускай літаратуры. Сам жа ж перакладчык гаворыць ва ўступе, што карыстаючыся, менавіта, такім прынцыпам падбіраў да зборніка вершы

**М. Канапацкі**

## ПІШЫЦЕ — ВЫШЛЕМ

**У** сучасны момант Галоўнае Праўленне Беларускага таварыства ў Беластоку мае на сваім складзе гумарэску Аўгуста Грэгары — «Здарэнне на кірмашы». Выступае ў ёй 9 асоб — у тым ліку 3 жанчыны.

Ёсць на складзе таксама літаратурны мантаж у апрацоўцы Ліды Гурскай, які прысвячаецца аповесці Аляксея Кулакоўскага — «Да ўсходу сонца». (Часы апошняй вайны).

Гэтыя выданні высылаем бясплатна па пісьмоваму запатрабаванню. Незалежна ад гэтага, знаходзяцца яны таксама ва ўсіх павятовых аддзелах нашага Таварыства

(ся)









### НА РЫНКУ

— Скажыце праўду, ці конь ваш непалахлівы?

— Даражэнькі, нічога не баіцца, нават ноччу сам спіць у стайні.

Прыслаў **Янка Антанюк**

### ДОМА НАЙЛЕПШ

Аднойчы давялося гаспадару за справамі цэлы дзень прасядзець у горадзе. Дамоў вярнуўся позным вечарам. Жонка, як жонка, любіць усё ведаць, давай выпытваць: дзе быў, што купіў, што еў і піў? Дайшло да таго, што пачалі гаварыць пра гарадскую сталоўку.

— Ну што ж, — кажа гаспадар, — у гарадской сталоўцы проста пальчыкі аблізвай.

— Такое смачнае? — пытае жонка.

— Ды не, а зусім мала, — адказвае муж.

Жонка таямнічa ўсміхнулася і падумала: «Цяпер ведаю, што рабіць, каб мужыку добрай быць».

Ад таго часу пачала мужу мала варыць.

Прыслаў **Мікалай Юрчук**

### ЛЯСНІЧЫ І СЕЛЯНІН

Сустрэў ляснічы селяніна, які вёз дрэва, і пытае:

— Навошта вы крадзеце дрэва?

— Навошта так абвінавачваць, пане ляснічы, — адказвае селянін, — вы ж самі бачыце, што я вязу, а не краду.

Прыслала **Зіна Супрунюк**

### ПЕРАПАЛОХ

Аднойчы сляпы з глухім пайшлі ў поле красці гарох. Сляпы, падышоўшы да мяжы, кажа:

— Мяжа.

Глухі, недачуўшы, адказаў:

— Ужо бяжаць!?

Сляпы ўзяў рукою за гарох і кажа:

— Але стручасты гарох.

Глухі недачуў і гукнуў:

— Утрох?! Ну дык будзем уцякаць.

Прыслаў **Фёдар Карпюк**

### ГАЛАНТНЫ САМАЗАБОЙЦА



## КОЛЬКІ ГОД ДЗІЦЯЦІ?

Сонейка ўзышло даўно,
Многа спраў зрабіла:
За лясы прагнала ноч,
Дзетак разбудзіла...

Кожны дню бязмежна рад,
З гоманам вясёлым
Хто ідзе ў дзіцячы сад,
Хто бяжыць у школу.

Адзін толькі Мікалай
Не схацеў устаці.
Каля ложка — ай-я-яй! —
Просіць-моліць маці:

— Уставай, сыночак мой,
Уставай, харошы...
Вось касцюмчык новы твой.
Боты і галёшы.

Пад'ясі — ідзі гуляць.
А як не захочаш —
Можаш зноў лажыцца спаць,
Любы мой сыночак...

Сын надзьмуўся: — А што ты
Мне нагатавала?
— Ёсць усё, мой залаты:
Кілбаса і сала,

Юшка, смажаны карась,
Піражкі, смятана...
— Мам, табе на працу час,
А мне ўставаць рана.

— Добра, сынку, добра, спі,
Пакуль ты не ў людзях,
На, кампоцiку папі —
Саладзей спаць будзеш.

— Нейкі горкі твой кампот!
Дай лепш мёду, маці!

---

Адгадайце: колькі год
Гэтаму дзіцяці?

Што тут, скажаце, гадаць:
Тры гадкі, ад сілы — пяць.

Памыліліся, сябры.
Хлопцу роўна дваццаць тры!

**ІВАН МУРАВЕЙКА**

## Крывадушнасць

Гасцініца «Цэнтравулей» выходзіла фасадам на плошчу, на якой кожны чацвер Меркурый меў працы па вушы. Раз у тыдзень на ўцеху хатагадынь плошча запаўнялася фурманкамі і вясковым народам. У прыгожай палавіны гарадской грамадскасці рыначныя цэны былі тэмай гарачых дыскусій да наступнага чацвярга.

Пад гасцініцай змяшчаўся рэстаран «Каапвітаміна». У той час, як Меркурый блытаўся сярод падвод, у рэстаране таўпіліся людзі, прагнуўшыя вадкіх і цвёрдых вітамінаў, а кухар у рэстараннай кухні не паспяваў разбаўляць вадой супы і соусы.

У той дзень, калі добрая фея «Натхненне» падарыла аўтару гэту тэму, загадчык рэстарана паклікаў у кантору шэфа - кухара і, хаваючы ў партфель дзве пачкі масла, якія кухар прынёс пад фартухом, сказаў:

— Цяжкія часы прышлі да нашага кааператыўнага парога. Вялікі пост завітаў да нас.

Шэф кухні паправіў беласнежны каўпак і адказаў:

— Абыдземся. Смятана, рыба, сушаныя грыбы — гэта таксама карысная ежа.

Загадчык заахвочваючы кіўнуў галавой, а кухар працягваў:

— Дзякуючы дэмакратыі жывем. Пры эксплуататарах горш было. Гаспадар у кухні круціўся, пакуль усяго ў кацёл не ўложыш, у буфеце крэўных саджаў. А сёння хто пры чым стаіць, з таго і жыве.

— Абы так вечна, — зрабіў вывад загадчык і дадаў: — У постныя дні трэба кожнаму дагадзіць: каму мясное, каму поснае блюда. Наведвальнікаў прыбавіцца. Жонкі трымаюць мужоў на постным. Такі ўжо здалёк крычыць, давай яму адбіўную або антрыкот. А падасі, у момант злопае і бяжыць дамоў пасціць.

— Ужо вы не турбуйцеся, — запэўніў загадчыка кухар, — справу паставім на ўзроўні, каму пост, а нам — масленіца.

У чацвер у «Цэнтравулей» прыбыла праезджая духоўная асоба.

У абедзенны час афіцыянт падаў у кухню чэк і крыкнуў: — картафлянка — раз, варэнікі з капустай — два, кісель для духоўнага з пятага нумару — тры.

Схапіўшы першае блюда, афіцыянт, бы балерына, танцуючы паміж столікамі, панёсся ў гасцініцу. Яго суправаджалі зласлівыя заўвагі нецярплівых наведвальнікаў рэстарана, якія не маглі дачакацца на сваю чаргу і нерваваліся за столікамі.

Пры чарговым рэйсе кухар прыпомніў афіцыянту:

— Не забудзь пасуду забраць з пятага нумару.

— Яволь шэф! — звастраславіў няўдала афіцыянт, працягваючы балетнае сола.

Вярнуўшыся, ён сказаў:

— Аддаю пасуду з пятага нумару.

Кухар уставіўся на талеркі і прахрыпеў:

— Ах, ты, блазан, пераблытаў блюды!

На талерцы скромна ляжала абгрызеная косць з адбіўной катлеты.

— Мо' і пераблытаў, але той з пятага даў жа на чай, — вінавата апраўдваўся афіцыянт.

Крывім мы душою, людзі мілыя.

Крывім перад сабою, перад рэлігіяй, перад грамадствам. І ад крывадушнасці пакуль нікога не пакрывіла.

*Дзядзька Лявон*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

«Паважаная Рэдакцыя! Прашу, калі ласка, змясціць у «Ніве» песню «Беласточчына», якую я чуў у праграме эстрады «Лявоніха» у Бельску Падляшскім.

З павагай Матвеюк, Канюкі, Бельскі павет».

Выконваем Вашу просьбу.

## БЕЛАСТОЧЧЫНА

сл. Віктара Шведа
муз. Васіля Кардзюкевіча




Беласточчына, зямелька родная,
Жывеш заўсёды ты ў глыбі маіх грудзей.
Мясціны не сустрэў у жыцці ніводнае,
Якая б мне была хоць крышку даражэй.

Вось родны краявід, палоскі вузкія,
Якія дробніць люд вясковы з года ў год;
Сярод палёў пасёлкі беларускія,
Дзе ад вякоў жыве мой дарагі народ.

Там села, як грыбок, хатка вясковая,
Дзе крокі першыя ў жыцці сваім рабіў,
Дзе ад бацькоў вучыўся роднай мовы я,
Таму ніколі мовы гэтай не забыў.

На Беласточчыне пражыў я маладосць,
А найважнейшае — я нарадзіўся тут.
Найдаражэйшаю таму была і ёсць
Мне Беласточчына, мой родны, мілы кут.

